АПБ

# Ахова птушак Бацькаўшчыны

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

BirdLife INTERNATIONAL PARTNER

www.ptushki.org

№ 1 (48) - 2012

## Минлесхоз: введение дополнительных ограничений по срокам и способам весенней охоты на водоплавающих птиц является необоснованным



Кряква. Фото Т.Романовой

**Постановлением Минприроды от 21 февраля 2012 года № 5 "Об установлении запрета на охоту на водоплавающую дичь в весенний сезон охоты 2012 года" была запрещена весенняя охота на гуся белолобого, гуся-гуменника, гуся серого, канадскую казарку, крякву на некоторых территориях. В этот перечень вошли участки таких территорий, важных для птиц, как «Освейское», «Болото Споровское», «Река Лесная», «Березина-Гайна», а также «Болото Ельня» и «Гродненская Свислочь».**

Общественная организация «Ахова птушак Бацькаўшчыны» поддерживает данное решение Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды. Однако следует заметить, что при подготовке постановления наша организация предлагала в три раза больше территорий, подавляющее большинство из которых не было включено в документ. К ним относятся такие важные для охраны водоплавающих птиц территории, как «Средняя Припять», Национальный парк «Припятский», «Простырь», «Пойма реки Сож» и другие.

23 марта 2012 года состоялось заседание межведомственного координационного совета по охоте при Министерстве лесного хозяйства. В результате этой встречи Минприроды разделило позицию охотничьих организаций. Ссылаясь на данные государственной статистики, начальник отдела биологического разнообразия Александр Гиряев проинформировал АПБ и других присутствующих о том, что проблемы со снижением численности утиных в Беларуси нет.

В то же время, представитель научно-практического центра Национальной академии наук Беларуси по биоресурсам подтвердил необходимость введения ранее предложенных центром рекомендаций. Они касаются исключения использования электронных манков, ввода ограничений по охоте на ключевых местах гнездования водоплавающих и др. О необходимости принятия активных мер по сохранению местообитаний утиных в пойме Припяти также упоминал и заместитель председателя Республиканского государственного объединения «Белорусское общество охотников и рыболовов» Бамбиза Н.Н.

В письме, отправленном на имя «Ахова птушак Бацькаўшчыны», по результатам встречи Минлесхоз резюмировал, что «с учетом мнения координационного совета введение дополнительных ограничений по срокам и способам весенней охоты на водоплавающих птиц, а так же полный ее запрет, является необоснованным и преждевременным».

## Определен топ-10 территорий, важных для птиц



Ольманские болота. Фото Д. Винчевского

**В Беларуси сейчас насчитывается 49 территорий, важных для птиц (ТВП). Ещё три территории – потенциальные и находятся в стадии утверждения.**

Основной задачей программы выявления территорий, важных для птиц, является сохранение мест обитания ключевых видов птиц, поскольку нельзя допустить уменьшения численности разнообразных видов этих животных. Для реализации данной задачи необходима организация охраны территорий, регулярный мониторинг птиц и угроз крылатым обитателям. При ограниченности материальных, временных или людских ресурсов, в первую очередь внимание должно быть уделено территориям с большей биологической значимостью, поскольку на таких территориях количество ключевых видов птиц и их численность выше.

Для определения биологической значимости территорий (с орнитологической точки зрения) во многих странах проводится их приоритезация. Каждая ТВП получает баллы за ключевые виды птиц, учитывая статус угрозы, представленный на данной территории для пернатых, и численность обитателей вида. Чем больше баллов получает территория, важная для птиц, тем серьезнее должна быть организация ее охраны и мониторинга.

На основании данных по численности ключевых видов птиц специалистами общественной организации "Ахова птушак Бацькаўшчыны" впервые проведена приоритезация территорий, важных для птиц, в Беларуси. В первую десятку ТВП, которые набрали наибольшее число баллов, входят: болото Званец, Средняя Припять, болото Споровское, болото Дикое, Простырь, Ольманские болота, Полесский радиационный заповедник, Припятские болота, пойма Сожа, Река Лесная.

Выделение приоритетных ТВП не означает того, что территориям, набравшим меньшее количество баллов, не будет уделяться внимание. Стратегической задачей организации "Ахова птушак Бацькаўшчыны" является сохранение всех выделенных территорий, важных для птиц.

**Семен Левый, специалист по природоохранным вопросам**

# Чорны свіргуль – птушка 2012 года



Фота Дз. Якубовіча



**Нацыянальная кампанія «Птушка года» праводзіцца грамадскай арганізацыяй "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (АПБ) з 2000 года. Мэта кампаніі – заахвочванне насельніцтва да актыўнай аховы птушак. Штогод АПБ выбірае від птушак, які мае пэўныя праблемы і патрабуе нашай увагі і дапамогі. У папярэднія гады птушкамі года былі белы бусел, белая пліска, авяльга, дамовы верабей, гарадская ластаўка, барадатая кугакаўка, кнігаўка, звычайны салавей, вялікая белая чапля, шэрая гусь, сокал-пустальга, вялікі кулён.**

### 10 цікавых фактаў пра чорнага свіргуля:

1. Свіргулі - самыя хуткія птушкі ў свеце.
2. Апынуўшыся на гарызантальнай паверхні, чорны свіргуль не можа ўзляцець з-за вельмі доўгіх крылаў і кароткіх лапак.
3. Птушаняты могуць упадаць у здранцвенне пры пахаладанні.
4. У кладцы часцей за ўсё 3 яйкі, рэдка бывае 2 ці 4.
5. Адзіны прадстаўнік атрада ў Беларусі, сваякамі якога з'яўляюцца саланганы і знакамітая калібры.
6. У Беларусі гняздуецца 140 000-160 000 пар. Свіргуль жыве ў асноўным у гарадах. Вельмі рэдка ўтварае калоніі ў старых лясах.
7. Асноўныя фактары пагрозы: скарачэнне месцаў гнездавання ў горадзе ў выніку замуроўвання дзірак і ніш у шматпавярховых будынках.
8. Чорны свіргуль зімуе ў Афрыцы (на поўдзень ад Сахары) і на востраве Мадагаскар.
9. Чорны свіргуль прылятае на месца гнездавання ў траўні і з'яўляецца адной з самых позніх птушак, якія вяртаюцца з выраю.
10. На розных мовах назва чорнага свіргуля гучыць наступным чынам:
    чёрный стриж – на рускай,
    mauersegler – на нямецкай,
    swift – на англійскай,
    jerzyk – на польскай.

### Мастацкія конкурсы

Мэта конкурсаў – паказаць прыгажосць чорнага свіргуля, цікавыя асаблівасці яго жыцця, праблемы, звязаныя з гэтай птушкай, і магчымыя шляхі іх вырашэння. Падказка для ўдзельнікаў: калі ў пошуковай праграме набраць пазначаныя вышэй назвы чорнага свіргуля на розных мовах, то можна знайсці цікавыя фотаздымкі птушкі ў якасці прыкладу для малявання. Мастацкія работы будуць ацэньвацца ў трох намінацыях.

У намінацыі **"Лепшы малюнак чорнага свіргуля"** прымаюцца мастацкія работы з выявай чорнага свіргуля, якія паказваюць яго цікавыя паводзіны ці звычкі. Фармат малюнка – А4 ці А3. Малюнкі могуць быць выкананы фарбамі або каляровымі алоўкамі.

У намінацыі **"Лепшы прыродаахоўны плакат"** будуць ацэньвацца работы, у якіх адлюстроўваюцца праблемы чорнага свіргуля і, па магчымасці, варыянты вырашэння гэтых праблем. На плакаце павінен быць слоган. Фармат работы – А3. Малюнкі таксама могуць выконвацца фарбамі або каляровымі алоўкамі.

Намінацыя **"Лепшы мастацкі выраб"** будзе прысуджацца тым конкурсным работам, якія будуць выкананы з гліны, саломкі, паперы і іншага матэрыялу, за выключэннем пластыліну.

Конкурс праводзіцца ў два этапы: рэгіянальны (абласныя спаборніцтвы і мінскі гарадскі конкурс) і рэспубліканскі. Калі ў рэгіёне функцыянуе мясцовае аддзяленне грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны", яно можа каардынаваць адпаведны рэгіянальны этап.

Малюнкі, плакаты і вырабы прымаюцца да 30 верасня 2012 года ў рэгіянальныя каардынацыйныя цэнтры з пазнакай – "Птушка года":

- Брэсцкая вобласць: Страчук А.С., а/с 46 г. Кобрын, 225306
- Гродзенская вобласць: Гуменны В.С. Гімназія №1 імя акадэміка Я. С. Карскага, пр-т Я.Купалы, д. 82, г. Гродна, 230010
- Віцебская вобласць: Сінкевіч І. У., Шумілінскі цэнтр пазашкольнай работы, вул. Ленінская, д. 22, г.п. Шуміліна, 211260
- Мінская вобласць: Паршута А. В., Мядзельская САШ №1 імя У.М.Дубоўкі, вул.Ленінская, д. 2, г. Мядзел, 222397
- Мінск: Якубоўская С. А., экалагічная гімназія №19, пр-т Пушкіна, д. 48, г. Мінск, 220073
- Гомельская вобласць: Леоненка А. М., гімназія № 51, вул.Лазурная, д. 8, г. Гомель, 246012
- Магілёўская вобласць: Бабак Л. В., Цэнтр юных натуралістаў г. Бабруйска, пер. Стадыённы, д. 8, г. Бабруйск, Магілёўская вобласць, 213800

Лепшыя работы будуць прадстаўлены на выставах мастацкіх работ у Мінску і рэгіёнах.

Для кожнай конкурснай работы павінны быць пазначаны імя, імя па бацьку, прозвішча, узрост, дакладны адрас і тэлефон аўтара, назва гуртка, адрас, а таксама імя, прозвішча, імя па бацьку кіраўніка гуртка і яго тэлефон, у тым выпадку, калі аўтар з'яўляецца сябрам якога-небудзь гуртка.

### Літаратурны конкурс

На конкурс прымаюцца літаратурныя работы ў аб'ёме адной старонкі (12 памер кегляў). У мастацкай форме прапануецца расказаць пра чорнага свіргуля і яго прыгоды. Вельмі важна адлюстраваць існуючыя праблемы чорнага свіргуля і вытрымаць экалагічныя асаблівасці птушкі. Літаратурныя работы могуць быць падрыхтаваны на беларускай, рускай ці англійскай мовах. Узроставых абмежаванняў няма. Работы прымаюцца ў электронным выглядзе на адрас сакратарыята info@ptushki.org да 30 верасня 2012 года.

### Конкурс на лепшую метадычную распрацоўку, прыродаахоўную ці асветніцкую акцыю

На конкурс прымаюцца распрацоўкі ўрокаў, пазашкольных заняткаў і класных гадзін. А таксама распрацоўкі эколагаасветніцкіх і прыродаахоўных мерапрыемстваў, якія могуць уключаць план, мерапрыемствы, справаздачу, а таксама метадычнае суправаджэнне. Распрацоўкі прымаюцца да 30 мая 2012 года.

### Інфармацыя для ўдзельнікаў конкурсаў

Усе ўдзельнікі конкурсаў традыцыйна атрымаюць сертыфікаты ўдзельніка, а пераможцы – дыпломы і прызы. Работы аўтарам не вяртаюцца. АПБ можа выкарыстоўваць конкурсныя работы з указаннем аўтарства для публікацыі, а таксама экспанаваць іх на выставах.

Установы адукацыі і культуры, а таксама мясцовыя аддзяленні "Аховы птушак Бацькаўшчыны" могуць праводзіць свае конкурсы па папулярызацыі ведаў пра чорнага свіргуля.

### Прыродаахоўныя акцыі

У рамках кампаніі грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны" плануе: выявіць месцы гнездавання свіргулёў у лясах і ацаніць неабходнасць прыняцця мер для іх аховы; распрацаваць рэкамендацыі для будаўнікоў па абследаванню будынкаў перад правядзеннем будаўнічых фасадных работ на прадмет наяўнасці калоній рукакрылых і гняздуючых птушак; падрыхтаваць рэкамендацыі па правядзенні рэмонту і рэстаўрацыі будынкаў са зберагальным рэжымам для свіргулёў; падрыхтаваць рэкамендацыі па выкормліванні маладых свіргулёў, якія выпалі з гнязда; усталяваць штучныя гняздоўі на будынках, дзе праводзіцца капітальны рэмонт.

Калі ў Вашым горадзе ў месцы гнездавання свіргулёў праводзяцца работы па рамонту і рэстаўрацыі будынкаў, якія могуць нашкодзіць гнездаванню свіргулёў, а таксама калі Вы знайшлі калонію гняздуючых свіргулёў у лесе, АПБ просіць паведаміць пра гэтыя факты ў сакратарыят.

Кампанія **"Чорны свіргуль – птушка 2012 года"** падтрымліваецца Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь, будаўнічым холдынгам "Сармат".

## Вынікі XV з'езда грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны"

28 студзеня 2012 года прайшоў XV з'езд арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны". Разам з супрацоўнікамі сакратарыята было зарэгістравана 146 удзельнікаў мерапрыемства.

Упершыню сябры "Аховы птушак Бацькаўшчыны", якія прысутнічалі на з'ездзе, змаглі ўзяць удзел у выбарах птушкі 2013 года. Цэнтральным Саветам былі зацверджаны тры віды птушак, за адну з якіх удзельнікам з'езда прапанавалася аддаць свой голас. Сярод абраных птушак – шэрая курапатка, звычайны гіль і ўдод. Усе бюлетэні без падліку галасоў былі запячатаны, пакет з імі будзе ўскрыты толькі ў верасні. Тады мы і зможам даведацца "імя" пераможцы.

На з'ездзе адбыліся выбары ў Цэнтральны Савет, паколькі закончыўся тэрмін паўнамоцтваў сябраў арганізацыі – Андрэя Віктаравіча Абрамчука і Аляксандра Васільевіча Казуліна. У выніку ў Цэнтральны Савет былі абраныя Ірына Эдуардаўна Самусенка, супрацоўнік лабараторыі арніталогіі Навукова-практычнага цэнтра Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па біярэсурсах, і Алег Іванавіч Кальчанка, захавальнік тэрыторыі, важнай для птушак, «Званец» з горада Кобрына.

Удзельнікі з'езда абралі і ганаровых сябраў арганізацыі. Гэтае званне атрымалі: Мікалай Гулінскі (выдатны фотаанімаліст, чые здымкі шмат разоў друкаваліся ў розных беларускіх часопісах і кнігах), Фрэдэрык Гушча (філатэліст, пераможца шматлікіх міжнародных і беларускіх філатэлістычных выставаў, ініцыятар выпуску серыі паштовых марак «Птушка года Беларусі»), Генадзь Міндлін (арнітолаг і натураліст, супрацоўнік Заалагічнага музея Беларускага дзяржаўнага універсітэта, аўтар шматлікіх навуковых і папулярных артыкулаў, прысвечаных птушкам).

Увагу дзяцей і дарослых прыцягнула выстава мастацкіх работ і фотаздымкаў на тэму «Вялікі кулён – птушка 2011 года». Прызы сімпатый гледачоў атрымаў малюнак Ганны Праскуры (Лошніцкая сярэдняя школа, Барысаўскі раён), плакат Влада Ліцьвіна (Цэнтр пазашкольнага выхавання «Золак», горад Мінск) і фотаздымак «Зімародак-гурман» Дзмітрыя Якубовіча.

У конкурсе аддзяленняў "Ахова птушак Бацькаўшчыны" прызавыя месцы былі размеркаваны наступным чынам: ганаровае I месца дасталася Брэсцкаму абласному аддзяленню арганізацыі, II месца заслужыла Барысаўскае раённае аддзяленне, III месца атрымала Слуцкае раённае аддзяленне. За актыўны ўдзел у акцыях і кампаніях арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" было адзначана Мінскае гарадское аддзяленне.

Настаўніца біялогіі з гімназіі № 11 горада Мінска Зінаіда Васільеўна Емельянава, як і некалькі гадоў запар, зноў перамагла ў конкурсе "Лепшы сябра АПБ".



**Новыя ганаровыя сябры АПБ. Фота С.Зуёнка**

На з'ездзе вырашаліся істотныя надзённыя пытанні. Удзельнікамі мерапрыемства была прынята рэзалюцыя, якая ўзнімае пытанні асушэння балот і ўздзеяння ліній электраперадач на птушак.

**Склад выбарных органаў АПБ**

**Старшыня АПБ**
**Вінчэўскі Аляксандр Яўгеньевіч (Мінск)**

**Цэнтральны савет АПБ**
**Грычык Васілій Вітальевіч (Мінск)**
**Гуменны Віталь Станіслававіч (Гродна)**
**Іваноўскі Уладзімір Валянцінавіч (Віцебск)**
**Кальчанка Алег Іванавіч (Кобрын)**
**Нікіфараў Міхаіл Яўхімавіч (Мінск)**
**Парэчына Наталля Іванаўна (Мінск)**
**Самусенка Ірына Эдуардаўна (Мінск)**
**Чэркас Мікалай Данілавіч (Камянецкі р-н)**

**Рэвізійная камісія АПБ**
**Сербун Аляксандр Аляксандравіч (Старшыня, Брэст)**
**Вінчэўскі Дзмітры Яўгеньевіч (Гродна)**
**Міндлін Генадзь Аркадзевіч (Мінск)**

# Навіны аддзяленнаў

## День клубов «Крылатый дозор» на Слутчине.

25 февраля 2012 г. на базе Слуцкого эколого-биологического центра учащихся районное отделение АПБ организовало День районного клуба «Крылатый дозор». Всего в Слуцком районе действует 21 клуб «Крылатый дозор».

Самым торжественным моментом стало награждение 4 педагогов – руководителей клубов «Крылатый дозор», организовавших их с самого начала работы отделения: Данильченко О. А. (педагог дополнительного образования эколого-биологического центра), Немкович С. В. (эколог Гацуковской средней школы), Полещук Ю. С. (учитель биологии средней школы №11 г. Слуцка), Валетко Ж. А. (учитель начальных классов средней школы №9 г. Слуцка), и 31 учащегося – постоянных и наиболее активных членов «Крылатого дозора».

Председатель отделения Наталья Буряченко ознакомила гостей мероприятия с презентацией Национальной кампании «Черный стриж – птица 2012 года» и предложила им принять активное участие в районном орнитологическом фестивале «Птушкі і людзі». Были подведены итоги акции «Птицы на кормушке» и зимних учетов птиц. Самые активные участники этих мероприятий были отмечены благодарностями.

Во второй части программы взрослые обсудили перспективы развития районного клубного движения, выбрали Совет районного клуба, а юные орнитологи с помощью интерактивных игр научились решать экологические задачи.

Первый в истории отделения АПБ День клубов «Крылатый дозор» принес не только награды, позитивное настроение, новые знакомства,



**Активным членам клубов «Крылатый дозор» были вручены грамоты. Фото Н. Слуцкая**

море интересной информации для всех, но и новые планы будущих совместных практических дел. Так, 15 мая этого года орнитологи приглашают всех на День соловья, 8-9 июня нас ожидает орнитологический поход. На базе Центра создается музей соловья, и мы ждем помощи и участия всех в сборе экспонатов и материалов.

Педагоги эколого-биологического центра учащихся приглашают в декабре 2012 года на районную конференцию «Лучший дозоровец» не только членов АПБ (на сегодняшний день в рядах районного отделения 330 друзей природы), но и всех, кто не хочет больше быть просто наблюдателем, а может стать настоящим другом и защитником природы.

**Наталья Буряченко, председатель Слуцкого районного отделения**

# Навіны праектаў

## Кулинарный поединок по подкормке птиц



**Участники проекта «Птицам все возрасты покорны»**

**С приходом весны были подведены итоги необычного конкурса – кулинарного поединка по подкормке птиц. В нем соревновались участники двух проектов, которыми занимается общественная организация «Ахова птушак Беларусі»: «Зелёные школы» и «Птицам все возрасты покорны». Последний реализуется в рамках программы «Место встречи – диалог».**

«Зеленые школы» основательно подготовились к зиме, соорудив новые кормушки, и старательно подкармливали птиц на пришкольных участках. Активно проявили себя участники из Слуцкого эколого-биологического центра учащихся, на территории которого этой зимой птиц подкармливали одновременно на 8-ми стационарных кормушках. В Борисовском экологическом центре детей и юношества проводились мастер-классы по подкормке птиц для детей и взрослых. Ученики Струбницкой средней общеобразовательной школы не только провели масштабную кампанию по подкормке птиц, но и привлекли немало новых сторонников, распространив специальное послание о пользе подкормки птиц.

Полезную информацию о рецептах деликатесной подкормки для птиц смогли получить учителя, принимающие участие в проекте «Зеленые школы», на специальном практическом занятии. Оно было проведено в рамках семинара, организованного в феврале проектом Европейского союза и Программой развития ООН «Экопартнёрство» в Кобринском районе. Преподаватели, принявшие участие в семинаре, смогли не только сами попрактиковаться в приготовлении для птиц лакомств – шишек из изюма и теста, – но и приобщить к подкормке птиц своих учеников.

Понимая сильные стороны молодых коллег из программы «Зелёные школы», участники проекта «Птицам все возрасты покорны» не собирались сдавать свои лидерские позиции. Любители птиц зрелого возраста стали настоящими экспертами в их подкормке. В Сморгони участники проекта устроили подкормочную площадку на одной из центральных площадей, всю зиму сами регулярно подкармливали птиц и активно привлекали к этому полезному занятию местных жителей, инициировали проведение конкурса на самую лучшую кормушку среди местного населения в 2013 году.

Однако, несмотря на все усилия участников проекта «Птицам все возрасты покорны», приз зрительских симпатий в номинации «Птушкі на незвычайнай кармушцы» завоевали новички — ученики Хидринской средней школы (Кобринский район). Приятно отметить, что клуб «Крылатый дозор» в этой школе создан совсем недавно (в декабре 2011 года), а участники клуба уже успели провести интересные акции по подкормке птиц и привлечь в свои ряды новых сторонников.

**Лидия Пшеницына, координатор проекта «Птицам все возрасты покорны». Фото автора.**

# Сустрэча з совамі



**Шэрая кугакаўка. Фота В. Кашчэева**

Ці змаглі б Вы зымітаваць гукі савы? Ці ўяўляеце Вы ўвогуле, якія яны, гэтыя гукі? 24 лютага сябры клуба "Рэдкая птушка" разам з вядомым спецыялістам па совах Генадзем Аркадзьевічам Міндліным паспрабавалі "сустрэцца" з совамі на іх тэрыторыі, а дакладней, пачуць гэтых цікавых птушак у вечаровым лесе непадалёк ад Мінска.

Зацікаўленых пачуць уханне савы на ўласныя вушы назбіралася 13 чалавек. На двух машынах мы хутка дабраліся да месца. Канечне, прыкметным яно было толькі для Генадзя Аркадзьевіча: прырода надзейна хавае свае каштоўнасці. Прайшоўшы метраў дзвесце ўздоўж дарогі, мы павіталіся і з лесам, і з сапраўдным глыбокім снегам. Падарожжа ўглыб лесу аказалася не такім ужо і доўгім: 10 хвілін – і Генадзь Аркадзьевіч паказвае нам некуды ўверх, дзе размясцілася на высокім дрэве савіная хатка. "Такіх савіных гнёздаў у радыусе 120 кіламетраў мы зрабілі 26, 23 з іх засялілі совы, – распачынае гаворку Генадзь Аркадзьевіч, – у гэтым вось жыве шэрая кугакаўка".

Пакуль мы дзівіліся з савінай хаткі, павольна напаўзала цемра. Увогуле, прывабнасць такіх лясных вылазак у тым, што тут усе мы, людзі, хутчэй за ўсё, – госці, а птушкі і жывелы – гаспадары. Мы гутарылі і адначасова прыслухоўваліся. Вядома, што совы карыстаюцца гукамі, каб прадэманстраваць, што тут іх тэрыторыя, і каб проста "паразмаўляць" паміж сабою. Розныя совы – розныя гукі. Генадзь Аркадзьевіч адмыслова зымітаваў савіны голас, каб птушка яму адказала. Але совы вельмі разумныя істоты – проста так ухаць яны не стануць. Мы пераходзілі з аднаго месца на іншае, каб пачуць уханне гэтых птушак. Ішлі, потым рэзка прыпыняліся кожны раз, як хто-небудзь пачуе гукі, падобныя да савіных. І зноў цішыня і чаканне... І вось нарэшце мы пачулі доўгачаканы голас савы, уханне шэрай кугакаўкі, даволі працяжнае і такое сапраўднае. Усе узрадаваліся, чакалі гукаў яшчэ, спадзяваліся: а раптам сава пагодзіцца пагутарыць зноў?

Наслухаўшыся савіных спеваў і адпачыўшы ў лесе, мы пакрочылі па нашай сцежцы назад. Было нясумна развітвацца з совамі і з лесам, бо калі любіш прыроду і яе насельнікаў, яны назаўсёды з табой. Мы спадзяемся, што совы і іншыя жыхары лесу былі рады пабачыць нас, аматараў прыроды, тым больш што мы не парушалі лясную гармонію, а толькі з асалодай глядзелі на навакольную прыгажосць і слухалі ўханне соў, за што ім і вельмі ўдзячныя.

**Сіткевіч Ліза, студэнтка 5-га курса факультэта міжнародных адносін БДУ, практыкантка АПБ**

# Зімовы ўлік птушак



**Шуляк-карагольчык таксама прылятае на кармушкі. Фота А.Сінькова**

У зімовым уліку птушак, які праводзіўся ў лесе, населеных пунктах і на адкрытых тэрыторыях, у 2012 годзе прыняла ўдзел 2328 чалавек. Аматары прыроды зафіксавалі 33966 птушак. Біяразнастайнасць была прадстаўлена 60 відамі. Максімальную колькасць падлікаў ажыццявілі жыхары Слуцкага раёна Мінскай вобласці.

## На падлікі кожны дзень

У ваколіцах Кобрына арганізацыяй зімовага ўліку птушак займаўся Аляксандр Страчук. Літаральна кожны дзень увесь студзень вяліся падлікі птушак. Акрамя шматлікіх больш распаўсюджаных птушак, якія зімуюць на Беларусі, былі адзначаны і сокал-пустальга, жаўрук-смяцюх, берасцянка, кольчатая туркаўка, сірыйскі дзяцел і іншыя птушкі. Старанна дапамагалі ва ўліку юныя натуралісты, выхаванцы Аляксандра Страчука.

## Вялікія галубы на зімоўцы

У Камянецкім раёне ў студзені былі зафіксаваны вялікія галубы. Гэта птушка – самы буйны голуб на Беларусі. Як паведамляе Вадзім Пракапчук, захавальнік тэрыторыі, важнай для птушак (ТВП), "Рака Лясная", чарада з 47-мі птушак сядзела на праводах лініі электраперадач над курурузным іржышчам. Часам некаторыя птушкі зляталі ўніз за кормам. У выніку было ўстаноўлена, што частка птушак магла аказацца галубамі-клінтухамі, паколькі гэты від быў пазней заўважаны ў чарадзе. Для галубоў, якія застаюцца на зімоўку, у асабліва цяжкі для іх перыяд актывісты арганізавалі падкормку. У розныя дні, калі Вадзім традыцыйна шпацыраваў па ваколіцах вёскі Вугляны ў межах ТВП "Лясная", ён бачыў палявога луня, зімародка, арабка, бакаса, рагатага жаўрука, канаплянак.

## Ястраб на кармушцы

Штогод усё часцей і часцей з'яўляецца інфармацыя пра птушыных драпежнікаў, якія палююць побач з кармушкамі для пявучых птушак. Некаторыя аматары абураны гэтым. Як адвадзіць дзёрзкага драпежніка? Але ж ястраб таксама птушка. Тым не менш, некаторыя вынаходлівыя аматары для сваіх птушыных сяброў прыдумалі спецыяльныя падкормачныя схованкі. Напрыклад, Галіна і Аляксандр Бяспалавы з Мінска на падваконніку збудавалі невялікую схованку, закрытую зверху сайдынгам, а збоку – сеткай з вялікімі ячэйкамі. Унутры кармушкі – паілкі, галінкі-насесты. Сініцы, зелянушкі і іншае дробнае птаства вольна пралазяць у схованку за кармам, а вось ястраб іх схапіць не можа. Галіна расказвае, што шуляк-карагольчык прылятае да іх ужо гадоў пяць, спакойна рэагуе на людзей. Атрымліваецца, што птушкі могуць не толькі падсілкавацца, але і адпачыць на галінках, а таксама схавацца ад птушынага драпежніка.

## Амялушкі наляцелі

Амялушкі прылятаюць на Беларусь толькі на зімоўку. Дзясяткі, а нават і сотні птушак, пераляцаюць з месца на месца ў пошуках ягад рабіны, каліны, глогу. Адну з самых буйных чарадаў амялушак бачыў Уладзімір Бондар з Магілёва. 23 снежня, праводзячы назіранне і ўлік птушак, ён налічыў адначасова 614 птушак!

Поўны спіс адзначаных відаў глядзіце на нашым сайце па адрасе http://www.ptushki.org/info/press/item/7636.html

**Руслан Шайкін, спецыяліст па экалагічнай адукацыі**

# Жывая Вясна 2012

spring alive

З прыходам вясны распачынаецца агульнаеўрапейская кампанія назірання за птушкамі "Жывая Вясна 2012". Жыхары 39 краін, у тым ліку Беларусі, назіраюць за прылётам птушак з выраю і размяшчаюць свае назіранні на сайце www.springalive.net. Пасланцамі вясны ў гэтым годзе сталі 5 птушак - белы бусел, вясковая ластаўка, звычайная зязюля, чорны свіргуль і шчурка-пчалаедка.

Ужо 12 сакавіка ў Маларыце быў заўважаны белы бусел! Хутка пачнуць прылятаць і астатнія яго крылатыя пабрацімы, таму пачынайце больш пільна ўглядацца ў неба і шукаць буслоў. На сайце "Жывой Вясны" ёсць інфармацыя пра тое, як выглядаюць гэтыя птушкі і як іх адрозніць па выглядзе і галасах. На інтэрнэт-старонцы вы таксама можаце пазнаёміцца з картай прылёту птушак і статыстыкай назіранняў за імі па ўсёй Еўропе.

Больш таго, даслаўшы смс-паведамленне на нумар 0841, вы зможаце спампаваць і паслухаць голас белага бусла, а падчас дзеяння кампаніі – і іншых птушак. Цікава і карысна, што ў межах Жывой Вясны 2012 праводзіцца агульнаеўрапейскі фотаконкурс "Маё першае назіранне". Прымаць удзел у конкурсе могуць падлеткі да 16 год. Сфатаграфаваўшы сваю першую птушку, удзельнікі размяшчаюць здымкі на сайце. Пераможцы першых трох месцаў атрымаюць узнагароды – прафесійныя фотакамеры. Больш падрабязна пра конкурс вы можаце даведацца на сайце www.springalive.net.

Далучайцеся да вясны разам з птушкамі, назірайце за імі са сваімі роднымі, сябрамі і проста аматарамі прыроды. Для нас важна кожнае ваша назіранне! А птушкі будуць ўдзячныя вам за любоў да прыроды.

Па ўсіх пытаннях звяртайцеся да каардынатара праграмы "Жывая Вясна" Лізы Сіткевіч па тэлефоне +375 29 878 65 73.

# Фотаконкурс грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» – «Птушкі ў аб'ектыве»



**Фота А.Несцерава заняла першае месца ў катэгорыі "Птушкі"**

Запрашаем усіх жадаючых прыняць удзел у штогадовым фотаконкурсе АПБ «Птушкі ў аб'ектыве». Рэгіструйцеся і размяшчайце свае здымкі ў галерэю на сайце www.birdwatch.by. Да 31 кастрычніка на працягу кожных двух тыдняў будуць выбірацца 5 найлепшых фотаздымкаў у кожнай з пяці катэгорыяй: 1. Юніёрскі кадр (аўтары да 16 гадоў); 2. Пейзаж з птушкамі; 3. Птушкі ў прыродзе; 4. Дапамога птушкам; 5. У пагоне за птушкамі (арнітолагі за працай, аматары і інш.)

На кожны двухтыднёвы конкурс адзін аўтар можа даслаць не больш за 5 сваіх здымкаў у кожнай з катэгорый. Калі фатаграфій падаецца больш, пазначайце ў апісанні да работ, якія з іх будуць выстаўляцца па-за конкурсам.

Папярэдне абраныя пяцёркі здымкаў затым будуць ацэньвацца журы. Фотаздымкі-пераможцы будуць надрукаваны і арганізаваны ў выставу, экспазіцыя якой адбудзецца на з'ездзе «Аховы птушак Бацькаўшчыны» ў студзені 2012 года. Аўтараў найлепшых фотаработ чакаюць прызы.

# Subbuteo

Надрукаваны 10-ты том беларускага арніталагічнага бюлетэня Subbuteo. Яго экзэмпляр атрымаюць усе сябры АПБ, падпісанныя на навуковую катэгорыю пачынаючы з 2009 г. Усе астатнія могуць набыць бюлетэнь у кніжнай інтэрнэт-краме www.knihi.by.

Ахова птушак Бацькаўшчыны
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 1 (48) - 2012
BirdLife International PARTNER
www.ptushki.org

**АПБ з'яўляецца нацыянальным партнёрам BirdLife International, глабальнай асацыяцыі прыродаахоўных арганізацый**

(с) АПБ, 2012 Інфармацыйны бюлетэнь
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны",
Галоўны рэдактар: Фянчук Віктар Аляксандравіч
Рэдакцыйная рада:
Левы Сямён Васільевіч
Лукшыц Вольга Уладзіміраўна
Ціхно Кацярына Валер'еўна
Шайкін Руслан Валянцінавіч
Вёрстка: Гупянец Зміцер

№ 1, 2012 год
Рэгістрацыйны №726
ад 12.10.2009 г.
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Наш адрас:
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны",
вул. Макаёнка, 8-313, 220114,
Мінск Беларусь
Тэл. (017) 263 01 30,
Факс (017) 263 06 13
(029) 223 06 13 МТС

(029) 101 68 87 velcom
E-mail: info@ptushki.org
www.ptushki.org
Для карэспандэнцыі
а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь

Дзейнасць ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" падтрымліваецца Каралеўскім Таварыствам Абароны Птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі.

Надрукавана ў друкарні УП "Данарыт".
Ліцэнзія ЛП № 02330/0494183 ад 03.04.2009.
Наклад 1500 паас.
Передрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на "Інфармацыйны бюлетэнь"
Замова № 724